# СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА №3

1990

ВОРГАН ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ

## ЛІСТ ДА СЯБРУКА

**Дзень добры, браце!**

**Мы з табою, дзякуй** Богу, дажыл1 ўжо да тых гадоў, кал1 нас вядзе свой розум. Але нас з табою трымаюць. Трымаюць малая стыпэндыя /без бацькоў мы - жабрак1, а з бацькам1 ўжо сорамна/ , прымусовае разьмеркаваньне /могуць 1 ў чужы Сыб1р, могуць 1 пад свой Чарнобыль - маўляў, дзец1 там жывуць, дык вучыце, карм1це, мыйце, нараджайце й сва1х/, жыльлё па-савецку /па-пяцёх у пако1 на трох/, якасьць адукацы1 /з нашым дыплёмам...эх,Канада.../. Камсамол 1 прафсаюз яўна не ахопл1ваюць ус1х нашых праблемаў, а ў тым , што ахап1л1 - клопату пра нас ды зацятасьц1 ў адстойваньн1 нашых праблемаў мы таксама ня бачым. А хочаш жыць больш-менш прыстойна - трэба л1сьл1в1ць, быць "актыв1стам", старастам, маўчуном 1 г.д. Бязвер'е, абыякавасьць да ўсяго 1 ўс1х, заняпад культуры 1 духоўнасьц1, адчужанасьць 1 варожасьць, забыцьце маральных каштоўнасьцяў, пак1нутых нам у спадчыну продкам1 - нашаму пакаленьню даводз1цца зьб1раць гэтае журботнае жн1во. Сыстэма прымушае нас моўчк1 класьц1ся ў ейную"будову".

Але чалавек - ня сродак, а мэта, 1 мэтай, якая аб'яднае нас, можа быць толык1 адно - выхаваньне новае свабоднае гэнэрацы1, якая здольная сама зраб1ць выбар 1 не дазвол1ць праводз1ць

над сабой безадказныя сацыяльныя экспэрымэнты.

Н1 свабоды, н1 правоў н1хто нам ня можа даць кал1 мы сам1 не запатрабуем 1х. Нам будаваць дэмакратычнае грамадзтва, нам адраджаць нацыянальную культуру, нам проста жыць. Таму галоўны напрамак нашае дзейнасьц1 - ахова жыцьцева важных 1нтарэсаў студэнцтва, 1нфармацыйны абмен, Узаемадапамога 1 сал1дарнасьць, прававая асьвета 1 заканадаўчая 1н1цыятыва.

Нарэшце, ня будзем забывацца на тое, што мы маладыя, а гэта значыць - нашыя сэрцы адчыненыя для сяброўства. Наш саюз - гэта кантакты са студэнцтвам усяго сьвету, гэта новыя сустрэчы 1 сябры, гэта магчымасьць ц1кава пражыць маладыя гады.

Мы закл1каем студэнтаў, а таксама ўс1х навучэнцаў дзейн1чаць. Г1сторыя дае нам шанц, 1 мы пав1нны яго выкарыстаць. Памятайце - разам мы дужыя 1 вольныя.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

## НАШЫЯ КААРДЫНАТЫ « «! ! !» »

МЕНСК:
-БП1 - Скрыган Юрась - 310320
-БТ1 - Вайтусёнак Алесь - 295403
-БДТМ1 - Перапечын Уладзя - мастацка-прамысловы фак.,1 курс, 3 група
-БДУ - Градоўк1н Сяржук - 230970
- Сугойдзь Вадз1м - 596612
-МДМ1 - Салошк1н Зьм1цер - 310956
-РТ1 - Сьлепянкоў Алесь - 312142
-М1К - Дугаўцоў Генадзь - вул.Рабкораўская, д.17, 1нт.2, п.302
-рэдакцыя "Ст.Д." - Вайцяхов1ч Зьм1цер - 317370

БЕРАСЬЦЕ:
- Бараноўск1 1гар - вул.Набярэжная, д.22, кв.78
- Лупакоў Уладз1слаў - 22498

ГОМЛЯ:
- Саладоўн1каў Андрусь - 557903

ГАРОДНЯ:
- Мазько Едрусь - вул.Даватара, д.27, п.113,

Музэй Багданов1ча - 440127

МАГ1ЛЕЎ:
- Сердзюкоў Алесь - 444190/сл./

В1ЦЕБСК:
- Сьвятлана - 15137
- Глаз Валера - Маскоўск1 пр., д.70, к.1, п. 110

## ВЫБАРЫ - 90

Рэспубл1канская Рада ТБМ 1мя Скарыны вылучыла кандыдатам у Менск1 гарсавет студэнта г1стфаку БДУ В1тушку Сяржука /"Талака", ЗБС/. Ён балатуецца па 3 Ун1вэрсытэцкай акрузе /вул. Кастрычн1цкая, Сьвярдлова 1 1нш./. Сярод 4400 выбаршчыкаў акруг1 абсалютная большасьць - студэнты БДУ 1 БТ1.

Калег1! Закл1каем 22 красав1ка галасаваць за нашага хлопца!



# ЗВАРОТ СТУДЭНТАЎ БДУ ДА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР

У гэтым годзе ўсё чалавецтва адзначае 500-годзе з дня нараджэньня беларускага першадрукара,вучонага,асьветн1ка 1 п1сьменьн1ка эпох1 Адраджэньня - Францыска Скарыны. Дзейнасьць "доктора Франциска Скорины из славного града Полоцька" зраб1ла моцны штуршок у разьв1цьц1 сусветнай культуры.Менав1та ён падаў красамоўны прыклад любв1 1 паваг1 да мовы сваей зямл1,кал1 пачаў друкаваць на ёй.

Прасочым,як захоўваецца на Беларус1 культурная спадчына Скарыны.З 351 скарын1нскага выданьня,што знаходзяцца ў СССР,тольк1 7 захоўваюцца на Беларус1.У нашай рэспубл1цы няма ан1воднага /!/ в1ленскага выданьня Скарыны, у той жа час як у Дзяржаўным Г1старычным Музе1 /Масква/ - 84 экзэмпляры кн1г Скарыны /у тым л1ку 36 пражск1х, 48 в1ленск1х/,фондах Дзяржаўнай б1бл1ятэк1 СССР 1мя У.1.Лен1на - 82 кн1г1 /69 пражск1х 1 13 в1ленск1х/,у схов1шчах Дзяржаўнай публ1чнай б1бл1ятэк1 1мя М.Я.Салтыкова-Шчадрына - 81 экзэмпляр /41-пражск1, 40 в1ленск1х/.1 гэты сьп1с можна працягваць.

Мы зараз шмат гаворым пра нацыянальнае адраджэньне,але адных размоў мала. Пав1нны быць справы.Каб адрадз1ць культуру народа,трэба вярнуць яму ўсё,што зьвязана зь яго культурай.У нас ёсьць добры прыклад - у 20-я гады Ўрад Беларус1 знайшоў сродк1,каб набыць 10 выданьняў Скарыны ў лен1нградскага б1бл1яф1ла Камарн1цкага.Дык няўжо зараз мы не пастав1м пытаньне аб вяртаньн1 неацэнных крын1ц самасьвядомасьц1 беларусаў на Радз1му першадрукара.

Па рашэньн1 ЮНЭСКА Францыск Скарына адзначаны ў сьп1се "выдатных дзеячоў славянскай культуры",юб1ле1 як1х знамянальна адзначаюцца ва ўс1м сьвеце. 1 мы л1чым,што народнае сьвята - Скарын1яна - гэта не часовая бутафорыя.Сапраўдным народным сьвятам пав1нна стаць вяртаньне кн1г Скарыны на зямлю яго продкаў 1 нашчадкаў.

Для таго,каб гэта адбылося,неабходна:

1. Утварыць пры М1н1стэрстве Культуры БССР кам1с1ю па вяртаньн1 кн1г Скарыны на Радз1му.
2. У склад кам1с11 пав1нны ўвайсьц1 навукоўцы,дзеячы культуры 1 мастацтва,аф1цыйныя асобы.
3. Выдзял1ць сродк1 на набыцьце скарын1нск1х выданьняў.
4. Пачаць перагаворы аб перадачы Беларус1 кн1г першадрукара.

500 ГОД

ШТО ДАЛЕЙ ?

ДА ЎГОДКАЎ ЧАРНОБЫЛЮ

ДИНАМИКА
относительной заболеваемости взрослого и детского населения
в Гомеле и Гродно /на 1 тыс. человек/

| Город | Возраст | Новообразования | Болезни глаза и его | Болезни органов слуха | Гипертоническая болезнь | Ишемическая болезнь сердца | Болезни верхних дыхательных путей | Болезни органов пищеварения | Болезни мочеполовой системы | Болезни кожи | Другие болезни органов дыхания |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Гомель | взр. | | | | | | | | | | |
| | 1985 | 1,802 | 0,23 | 2,36 | 13,32 | 19,88 | 68,24 | 19,14 | 3,18 | 3,10 | 26,80 |
| | 1988 | 3,84 | 3,oo | 2,88 | 35,28 | 43,56 | 178,20 | 43,68 | 6,72 | 3,36 | 63,84 |
| | дети | | | | | | | | | | |
| | 1985 | | 2,15 | 8,83 | | | 612,22 | 5,77 | 0,68 | | 106,73 |
| | 1988 | | 14,64 | 36,04 | | | 1161,72 | 23,88 | 4,43 | 5,52 | 365,28 |
| Гродно | взр. | | | | | | | | | | |
| | 1985 | 5,126 | 6,54 | 6,51 | 38,51 | 30,08 | 136,78 | 25,78 | 4,21 | 9,43 | 22,77 |
| | 1988 | 3,48 | 2,88 | 3,24 | 35,64 | 32,04 | 82,56 | 26,88 | 8,04 | 5,16 | 42,12 |
| | дети | | | | | | | | | | |
| | 1985 | | 6,02 | 6,75 | | | 951,35 | 12,51 | 2,01 | 0,21 | 144,87 |
| | 1988 | | 8,52 | 37,66 | | | 742,56 | 21,84 | 5,52 | 6,64 | 166,80 |

Автоматизированная государственная информационная система "ЗДОРОВЬЕ" ГОСКОМСТАТ СССР

# РАДАЎНІЦА

Радаўн1ца /радун1ца,радун1цк1я дзяды/ - вясновы дзень памяці продкаў у беларусаў.Адзначаецца яшчэ з паганск1х /язычн1цк1х/ часоў,а цяпер таксама 1 хрысьц1янам1.

Пам1нальны абрад адбываецца непасрэдна на мог1лках на 9 дзень пасьля Вял1кдня ў аўторак на "правады" ц1 ў бл1жэйшую нядзелю.

На Радаўн1цу кожная сям'я 1шла пам1нацъ родз1чаў спачатку ў царкву,а потым на мог1лк1,дзе прыводз1л1 ў парадак маг1лы бл1зк1х.Рассыц1лал1 на насыпе абрус 1 пачынал1 пам1нальную трапезу,якая нагадвала старажытную паганскую трызну.Крыху стравы /фарбаваныя яйк1,мяса,куцьцю 1 1нш./ 1 гарэлк1 пак1дал1 "для мёртвых".У размовах успам1нал1 нябожчыкаў,часта гучал1 галашэньн1.Рэшту пам1 - нальных страў раздавал1 жабракам.Правядзеньне Радаўн1цы заканчвалася застольлем дома ц1 ў карчме.

Закл1каем нашых чытачоў адзначыць старадаўн1 беларуск1 абрад Радаўн1цу.

Падаём верш Уладз1м1ра Караткев1ча,як1 выдатна перадае радун1цк1 настрой.

■ ■ ■

Бацьк1 з маг1л цяплом дыхнул1,
З узгоркаў снег схаваўся ў роў,
1 кожны гроб шум1ць,як вулей,
Ад спрэчак кветак 1 чмялёў.
Заг1не,хто ў м1нулым дрэмле:
Буяна травы ймкнуць да зор
Навыперадк1,напярэймы,
Узахапы 1 насупор.
Сок крочыць па м1льёнах лесв1ц,
Па клетках - аж да верхав1н,
Каб падарыць сусвету песн1,
Здабытыя з зямных глыб1нь.
Ляжу каля лясных узбочын,
Ляжаць 1 ждуць мяне гады,
1 п'юць уск1нутыя вочы
Усю повень неба 1 вады.
Мне цяжар шчасця грудз1 сплюснуў,
Сплял1ся валасы з травой,
1 мятлушка сядз1ць на вуснах,
Каб разам уздыхаць са мной.
Давол1 марнай жыць пагоняй,
Жывецца або не - жыв1 !
Кароўка божая ў далон1,
Як кропля божае крыв1.
1 зноў бязмежны свет чакае,
Свет сэрцаў,песень 1 бароў,
Дай мне,вясна,шлях1 без краю,
Дай сэрцу вечную любоў.
Зямля гудзе,як цёплы вулей,
Зн1каюць крыўды,боль 1 зло...
Бацьк1 з маг1л цяплом дыхнул1
Каб дзецям жыць лягчэй было.

У.КАРАТКЕВ1Ч.

# «ЧАГО ХОЧУЦЬ НЕФАРМАЛЫ?»

Чацьвёртага красав1ка г.г. у Менск1м 1нстытуце культуры па 1н1цыятыве ДССБ /Дэмакратычны Саюз Студэнтаў Беларус1/ адбылася сустрэча адм1н1страцы1 1нстытуту са студэнтам1.Сярод прысутных мы ўбачыл1 загадчыкаў катэдраў 1 выкладчыкаў грамадзк1х дысцыпл1наў,на што 1 спадзявал1ся.Бо абмяркоўвалася пытаньне аб месцы гэтых дысцыпл1наў у вучэбным пляне ВНУ 1 аб ажыцьцяўленьн1 загаду Дзяржкамадукацы1 № 946.

Пасьля сустрэчы прарэктару......был1 перададзеныя наступныя прапановы студэнтаў:

1.Замян1ць "Пал1тычную г1сторыю" /былая г1сторыя КПСС/ на "Пал1талёг1ю",якая б вывучала розныя пал1тычныя структуры сьвету;цяперашняя пал1т. г1сторыя падае давол1 супярэчл1выя тлумачэньн1 зьявам нашае г1сторы1.

2.Замян1ць прадмет "Ф1лязоф1я" на дэ1дэалyг1заваную "Г1сторыю ф1лязоф11";цяперашн1 курс грунтуецца на маркс1зме-лен1н1зме,у той жа час нашая пал1тычная структура шматпартыйная.

3.Замян1ць "Пал1тэканом1ю сацыял1зму" на "Экаком1ку",дзе вывучаўся б вопыт розных эканам1чных фармацыяў;у вывучэньн1 економ1к1 сацыял1зму ў так1м маштабе няма патрэбы,таму што дадзеная тэорыя паказала сваю нясслушнасьць,адарванасьць ад жыцьця.

4."Навуковы камун1зм" /альбо "тэорыя сацыял1зму"/ замян1ць на "Сацыялёг1ю"; давол1 часта выказвалася думка аб выдзяленьн1 "Навуковага камун1зму" з прадметаў,што вывучаюцца ў ВНУ.

Усе перал1чаныя вышэй пытаньн1 будуць разглядацца ў канцы красав1ка Вучонай Радай 1нстытуту. Чакаем 1 веруем,што голас студэнтаў будзе пачуты.

# НАШЫЯ СПРАВЫ

# ГІСТОРЫЯ КПСС

У М1Н1СТЭРСТВА НАРОДНАЕ АДУКАЦЫ1 БССР

АД СТУДЭНТАЎ 1 ВЫКЛАДЧЫКАЎ НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОВАЎ БЕЛАРУС1

АДКРЫТЫ Л1СТ.

У краiне 1дзе працэс абнаўленьня, партыя прызнае стварэньне шматпартыйнае сыстэмы, пераглядаюцца старыя застойныя прынцыпы, а ў той жа час у навучальных установах гэтыя "прынцыпы" адыгрываюць к1руючую ролю. Студэнты працягваюць вывучаць г1сторыю КПСС, навуковы камун1зм, маркс1сцка-лен1нскую ф1лязоф1ю, навуковы атэ1зм, пал1тычную г1сторыю XX стагоддзя 1 1нш. Мы выступаем за дэ1дэалёг1зацыю 1 дэпал1тызацыю адукацы1, а таму

ПАТРАБУЕМ:

1. вывесьц1 грамадзк1я дысцыпл1ны /г1сторыя КПСС, навуковы камун1зм 1 1нш./ з шэрагу вядучых прадметаў 1 ўвесьц1 ў курс факультатыўных прадметаў, як1 ў роўнае ступен1 адлюстроўвал бы вядучыя 1дэалёг11 ды пал1тычныя плын1 сьвету;
2. дэ1дэалёг1зацы1 1 дэпал1тызацы1 спэцыяльных дысцыпл1наў;
3. увесьц1 ў навучальных установах выкладаньне факультатыўнага курсу "Г1сторыя 1 культура Беларус1".

За кошт скарачэньня гадз1наў на вывучэньне вышэйзгаданых прадметаў мы патрабуем павял1чыць аб'ем занняткаў па спэцыяльных прадметах 1 прывесьц1 зьмест Вучэбнага працэсу ў навучальных установах ў адпаведнасьць зь 1хным1 назовам1.

Чалавек пав1нен быць вольным ад 1дэалёг1чнага 1 пал1тычнага ц1ску.

ВОЛЮ ТВОРЧАСЬЦ1 !

14 сакав1ка 1990 году.

Задз1ночаньне
Беларуск1х
Студэнтаў.

| Прозьв1шча, 1мя | Подп1с | Адрэса ц1 мейсца працы |
|---|---|---|

РАСПАЧАТЫ ЗБОР ПОДП1САЎ ПАД ГЭТЫМ Л1СТОМ. НА ДАДЗЕНЫ МОМАНТ МЫ МАЕМ УЖО 2 ТЫСЯЧЫ ПОДП1САЎ, РАСПАЧАТЫ БАЙКОТ НА ГЭАФАКУ БДУ, ПРАВЕДЗЕНЫ М1ТЫНГ. ДАЛУЧАЙЦЕСЯ ДА ГЭТАЙ СПРАВЫ! НЯХАЙ НЕ АБМ1НЕ ЯНА Н1ВОДНАГА СТУДЭНТА! Л1СТЫ МОЖНА АТРЫМАЦЬ, ПАТЭЛЕФАНАВАЎШЫ Ў РЭДАКЦЫЮ "С.Д." АЛЬБО ПА КАНТАКТНЫХ ТЭЛЕФОНАХ Ц1 АДРЭСАХ У ВОБЛАСЬЦЁХ

Скарыстаушы "Адкрыты л1ст" ЗБС, 1 курс гэафаку БДУ сабрау подп1сы з патрабаваньнем перавесьц1 абавязковы курс "Пал1тычнай г1сторы1 XX стагоддзя" на факультатыўны спосаб выкладаньня. Подп1сы перадал1 ў рэктарат, там гэтай справай заняуся прарэктар па грамадзк1х дысцыпл1нах Брыгадз1н Петр 1ванав1ч. 4 красав1ка г.г. адбыўся сход 1-га курсу гэафаку з удзелам дэканату, прарэктара, парторга, выкладчыкаў катэдры. Студэнты яшчэ раз растлумачыл1 свае патрабаваньн1. К1раун1цтва рашуча адмов1лася выконваць патрабаваньн1. Як вын1к, студэнты прагаласавал1 за байкот занняткаў па г1сторы1.

6 красав1ка дэканам па указаньн1 прарэктара было абвешчана, што дадзенае пытаньне усеж-так1 будзе разгледжана на Навуковае Радзе БДУ 16 красав1ка.

7 красав1ка адбылася нарада аргкам1тэту байкоту гэафаку, групаў падтрымк1 1ншых факультэтаў БДУ, прадстаўн1коў Рады Задз1ночаньня беларуск1х студэнтаў. Было вырашана правесьц1 11 красав1ка ў двары БДУ студэнцк1 м1тынг у падтрымку нашага байкоту 1 ўвогуле патрабаваньняў у "Адкрытым л1сьце" ЗБС.

10 красав1ка па просьбе студэнтаў на гэафак мелася прыехаць здымачная група Беларускае тэлев1з11. Хлопцы спадзявал1ся на шчырую размову, на выйсьце праз тэлев1з1ю да шырокае аўдыторы1, на яе падтрымку. На жаль, па невядомых прычынах, сустрэча не адбылася.

1.М.

11 красав1ка г.г. па 1н1цыятыве аргкам1тэту гэфаку 1 ЗБС адбыўся першы м1тынг

11 красав1ка г.г. па 1н1цыятыве аргкам1тэту гэафаку 1 ЗБС адбыўся першы на Беларус1 студэнцк1 м1тынг. У двары БДУ сабралося каля 250 чалавек студэнтау 1 выкладчыкаў. Выступ1л1 прадстаўн1к1 абодвух канфл1ктуючых бакоў, абгрунтоўваючы сваю пазыцыю. Сабраныя, слухаючы прамовы большай часткай безэмацыйна, усеж-так1 прынял1 пераважнай большасьцю /супроць тры, ус устрымалася два/ наступную ўхвалу:

УХВАЛА

м1тынгу студэнтаў 11.04.1990 г.

Мы падтрымл1ваем прапановы Задз1ночаньня беларуск1х студэнтаў наконт факультатыўнага выкладаньня грамадзк1х дысцыпл1наў.

З прычыны немагчымасьц1 на дадзены момант хуткай радыкальнай рэформы па пытаньнях выкладаньня гэтых дысцыпл1наў мы патрабуем:

1. замены формы правядзеньня занняткаў; праводз1ць 1х у выглядзе дыскус1яў, круглых сталоў, сустрэчаў ды 1нш.,

2. адзнак1 /зал1к1/ па дадзеных прадметах за друг1 сэмэстр выстав1ць, зыходзячы зь бягучай пасьпяховасьц1 альбо па рэфэратах,

3. прыняцьце канкрэтных рашэньняў па п.п.1, 2 перадаць на факультэты з абавязковым удзелам студэнтаў.

# Аб Гэтым Не Гавораць

СОВЕРШЕННО СЕКРЕТНО

Государственный Комитет СССР по народному образованию.
ПРИКАЗ

26.12.1989 г. Москва № 946

"О реализации предложений делегатов Всесоюзного студенческого форума по совершенствованию преподавания общественных наук"

В целях реализации предложений делегатов Всесоюзного студенческого форума по совершенствованию преподавания общественных наук ·

Приказываю:

1. Республиканским и ведомственным органам управления высшими и средними специальными заведениями, ректорам ВУЗов, директорам средних специальных заведений, советам кафедр общественных наук:

1.1. Выработать конкретные меры по реализации высказаных студентами и учащимися практических замечаний и предложений по совершенствованию преподавания общественных наук и выполнению приказа Госкомобразования СССР от 22 августа 1989 года № 685;

1.2. Особое внимание обратить на глубокое изучение целей и основных направлений перестройки советского общества, проблем обновления социализма

1.3. Шире использовать активные методы обучения /диспуты, деловые игры, дискуссии, круглые столы конференции и др./, разрабатывать и внедрять в учебный процесс новые методы на базе современных информационных технологий, спецкурсы по общественным наукам, учитывающие положение студентов и учащихся, профиль учебного заведения, региональные и национальные особенности.

/.../

4. Ввести со второго семестра 1989-1990 года во всех высших учебных заведениях страны, независимо от их ведомственной подчинённости, государственный экзамен по одной из общественных наук по выбору ВУЗа вместо итогового государственного экзамена по марксизму-ленинизму.

Особое внимание при государственной аттестации выпускников должно быть уделено знанию новой концепции+/выдучана намі/ социализма, современных проблем перестройки советского общества.

Курсовой экзамен по дисциплине, вынесенной на госэкзамен, не проводится.

5. Положение о госэкзамене по общественным наукам в высших учебных заведениях утвердить /приложение/.

Приложение к приказу Госкомобразования от 26 декабря 1989 г. № 946.

ПОЛОЖЕНИЕ

о государственном экзамене по общественным наукам в высших учебных заведениях.

1. Общие положения.

Во всех высших учебных заведениях страны вводится государственный экзамен по общественным наукам. Госэкзамен проводится для всех специальностей по одной из общественных дисциплин, определенной Ученым Советом ВУЗа с учётом её методологического и практического значения для будущей работы специалиста, после изучения всех общественных дисциплин. На различных факультетах ВУЗа на госэкзамен могут выноситься разные общественные науки.

Госэкзамен может проводиться по желанию студентов в устной или письменной форме, форме защиты реферата, социального проекта или результатов исследований по утвержденной кафедрой тематике.

Изучение дисциплины, вынесенной на государственный экзамен, завершается вместо курсового экзамена зачетом.

2. Ориентация и проведение экзамена.

К Госэкзамену по общественным наукам допускаются студенты, завершившие изучение всех общестоведческих дисциплин, сдавшие все зачеты и экзамены в соответствии с учебным планом данной специальности. Продолжительность госэкзамена одного студента - не более 45 минут.

Результаты госэкзамена по общественным наукам определяются оценками "отлично", "хорошо", "удовлетворительно", "неудовлетворительно".

Получение неудовлетворительной оценки по общественным наукам не лишает студента права сдавать и защищать дипломный проект /работу/.

Лицом, получившим на госэкзамене по общественным наукам неудовлетворительную оценку, диплом не выдается. Они направляются на работу в установленном порядке. К повторной сдаче госэкзамена они могут быть допущены в течении трех лет после окончания ВУЗа, но не ранее чем через три месяца. Пересдача госэкзамена на повышенную оценку не допускается.

ПАСЛУХАЕМ—ПАСПРАЧАЕМСЯ

# САМАСТОЙНАЯ ДУМКА

Гарачыя спрэчкі вакол ролі, якую павінна выконваць Рада Задзіночаньня беларускіх студэнтаў прымушаюць мяне выказаць свае думкі па гэтым пытаньні.

Студэнты - вельмі вялікая, разнастайная, кепска арганізаваная ў нейкія структуры маса людзей. Аднадумцы вельмі цяжка адшукваюць адзін аднога. Студэнт мэдінстытуту чуць ня чуў аб тым добрым, што ёсьць, напрыклад, у палітэхнічным інстытуце. Таму лічу галоўнымі для Рады ЗБС тры функцыі: інфармацыя, каардынацыя, інішыятыва. З самых розных крыніцаў, самага рознага характару. Добрае выконваньне Радаю дадзеных функцыяў дасьць студэнту магчымасьць разабрацца ў палярных думках, знайсьці сабе паплечнікаў ды сяброў, дапаможа адпачыць, адчуць волю, дасьць матар'ял для разважаньняў.

Рада ЗБС не павінна мець права прадстаўляць усе беларускае студэнцтва, выражаць агульную "ягоную" думку альбо вучыць яго, як трэба жыць, рабіць і думаць. Рада можа мець права ініцыятара, арганізатара, кансультанта. Галоўнае патрабаваньне - нестандартныя думкі ды разумныя прапановы, адказнасьць за лес краіны і канкрэтнае справы. У такіх умовах зьявіцца магчымасьць і падмурак для стварэньня шматлікіх незалежных навуковых, палітычных, прафсаюзных, эканамічных, экалягічных ды іншых аб'яднаньняў студэнтаў, праз якія студэнт здолее праявіць сябе з карысьцю для сваей зямлі і ўсяго чалавецтва. Рада ж ЗБС будзе працягваць выконваць свае асноўныя тры функцыі.

Ігар Міхно.

# ЛІТВА і РУКА МАСКВЫ

МОСКВА - КРЕМЛЬ
ПРЕЗИДЕНТУ СОЮЗА СОВЕТСКИХ СОЦИАЛИСТИЧЕСКИХ РЕСПУБЛИК
ГОРБАЧЁВУ М.С.

О Б Р А Щ Е Н И Е

В последнее время участились случаи нарушения спокойного ритма жизни граждан Литовской Республики со стороны вооруженных сил возглавляемого Вами Государства.

Мы, граждане Литвы разных национальностей решительно протестуем против вмешательства войск СССР в общественно-политическую жизнь Республики, захвата зданий и помещений, насилия по отношению к мирным жителям, что приводит к нагнетанию обстановки в Литве и вокруг нее.

Призываем Вас принять все необходимые меры для прекращения подобных акций и скорейшего начала переговоров с Правительством Литовской Республики по всем вопросам, представляющим взаимные интересы.

| | |
|---|---|
| Союз поляков Литвы чл.президиума союза г.Вильнюс | Ю.Трык. |
| Польская секция Вильнюсского общества ссыльных | Р.Гечевски. |
| Общество возрождения культуры литовских татар | М.Байрашевский. |
| Немецко-литовское общество культуры | А.Ляуконис-Флик. |
| Молдавско-румынское общество "Дачиа" | Л.Мелник-Жалакявичене. |
| Общество возрождения еврейского самосознания "Ткума" | Г.Альпернас. |
| Литовско-азербайджанское культурное общество | М.Гамзаев. |
| Вильнюсский клуб латышей | И.Кишкис. |
| Белорусское культурное общество | К.Балахович. |
| Грузинское общество "Иверия" | Д.Гочешвили. |
| Общество украинцев Литвы "Тул" | Ю.Панькив. |
| Общество эстонцев Литвы | В.Стрикайтене. |
| Общество культуры евреев Литвы | Э.Зингерис. |
| Армянское общество "Гарун" | О.Исаев. |
| Общество мордвы-эрзя | А.Балашявичене. |
| Русский культурный центр | А.Иноземцев |
| Каунасское общество русской культуры | Ж.Корсукова |

## ЛІТВА І БЕЛАРУСЬ

Хочацца сказаць колькі словаў у сувязі з заявай Беларускага кіраўніцтва аб вяртаньні Беларусі Віленскае акругі ў выпадку выхаду Літвы са складу СССР. Гэтае пытаньне мае чатыры галоўныя аспэкты: гістарычны, палітычны, прававы і этычны. Сваёю мэтаю мы ня ставім зараз неабходнасьць разглядзіць грунтоўна вышэйзгаданыя пытаньні. Дастаткова будзе зьвярнуць увагу чытача на некалькі акалічнасьцяў, якія ўзьнікаюць па ходзе разгляданьня аспэктаў праблемы.

Зь гістарычнага пункту гледжаньня гэтае пытань не вырашыць амаль немагчыма. Лёс беларусаў і літоўцаў фактычна ня розьніцца. Мы жылі ў адзі н а й дзяржаве /пакуль яна не была захопленая чужынцамі/, мы змагаліся з агульнымі для нас ворагамі, мы разам па кутвалі і зьнішчалі нас разам. Межаў паміж літоўцамі і беларусамі гістарычна няскладалася. Сучасныя разьмежаваньні - спадчына Сталінскае эпохі. І любая мяжа, праведзеная паміж намі, будзе не натуральная. Таму найлепш было б усё пакінуць у існуючым стане, каб не абвастраць сітуацыю.

З палітычнага боку гледжаньня заява нашага кіраўніцтва і падняцьце Віленскага пытаньня, бачыцца ня йнакш, як авантура. Сакалоў і К° ведаюць, што любыя зьмены існуючых межаў пагражаюць дэстабілізацыяй палітычнай сітуацыі ў Эўропе ў цэлым, і ні хто на гэта ня пойдзе. З гэтага вынікае, што дадзеная заява Беларускага кіраўніцтва ні што іншае, як карта ў палітычнай гульне Масквы. І яшчэ. Мы здолелі ўжо ўпэўніцца - тэрэтарыяльныя пытаньні прыводзяць да міжнацыянальных канфліктаў. Сьведкай таму - Карабах. Сытуацыя ў Літве вельмі напружаная, і, улічваючы дэзынфармацыю, якую атрымліваюць беларусы аб падзеях у свaіх сусе-дзяў, дык у сьвятле гэтых фактаў заяву нашага кіраўніцтва можна разглядаць як спробу распальваньня міжнацыянальнай варожасьці /а гэта крымінальна карална/. І зноў, гэта выгодна толькі Маскве.

Прававы аспэкт самы складаны і вялікі, і мы сёньня не кампэтэнтныя яго разглядаць, а таму пяройдзем да этычнага боку справы.

Зьдзіўляе тое, што пяцьдзесят год рэспубліканскія кіраўнікі і думаць ня думалі аб Віленшчыне і віленскіх беларусах. Ды й зараз яны абяцаюць успомніць аб іх толькі пры ўмове набыцьця Літвою незалежнасьці. Іначш, як двусэнсоўную, гэтую пазыцыю не назавеш. Калі гэта не ўдар у сьпіну Літвы ў рашаючы для яе момант /у гэтым мы ўпэўненыя/, а прынцыповая пазыцыя рэспубліканскіх уладаў, дык чаму тады не было зроблена падобных заяваў у адносінах Польшчы і РСФСР аб вяртаньні спрадвечных беларускіх земляў Беласточчыны і Смаленшчыны з шэрагам іншых земляў сучаснай РСФСР/. І апошняе. Ці мае папарадкаваная Маскве БССР маральнае права прад'яўляць тэрытарыяльныя патрабаваньні Літве, якая стала на шлях незалежнасьці. Толькі дзьве самастойныя дзяржавы - Літва і Беларусь - могуць вырашыць гэтае складанае пытаньне.

Зь.Вайцяховіч.

# СТУДЭНТЫ І ПАЛІТЫКА

ОБРАЩЕНИЕ УЧАСТНИКОВ МЕЖДУНАРОДНОГО ФОРУМА СТУДЕНТОВ, ПРОХОДИВШЕГО В ВИЛЬНЮСЕ 4-6 АПРЕЛЯ 1990 ГОДА.

13 мая 1989 года китайские студенты приняли участие в акции голодовки за права человека и демократию. Правительство Китая жестоко расправилось с участниками этой голодовки.

Эти антигуманные действия правительства доказывают факт, что апатия и безразличие открывают дорогу безнаказанному и кровавому геноциду против слабых и беззащитных.

Угнетенным остается только одна возможность противостояния - гражданское мирное неповиновение. Мы должны осознать, что только общие усилия людей могут остановить варварство современных рабовладельцев.

Поддерживая инициативу студентов Гарвардского университета, мы призываем всех студентов принять участие во всемирной однодневной голодовке 13 мая 1990 года.

Вильнюс, 1990.

ОБРАЩЕНИЕ КО ВСЕМ СТУДЕНТАМ МИРА

Основываясь на международном праве наций на самоопределение, Литва избрала свой путь - свободу. Президент СССР М.С.Горбачев неоднократно высказывался за это право. Но события в республиках Закавказья и нынешние события в Литве доказывают двусмысленность этих слов - опять используется сила при решении проблем.

Мы обращаем внимание, что обстановка в Литве спокойна и Литовская Республика не несет угрозы и опасности никому.

Призываем всех студентов прервать занятия и собраться на демонстрации протеста, если будет использована военная сила Советского Союза против воли народа Литвы, а также в случае попыток насильно заставить граждан Прибалтийских республик служить в окупационной армии.

Объединенное студенческое движение всегда было могучей силой. Пусть и сегодня оно будет направлено в поддержку восстановления государственности Эстонии, Латвии, Литвы и в поддержку права наций на самоопределение.

Обращение принято на международном студенческом форуме 6 апреля 1990 года в г.Вильнюс, в котором принимали участие представители: Белорусского Государственного Университета, Грейсвальдского Университета, Таллиннского Технического Университета, Таллиннского Педагогического Института, Львовского Университета, Шауляйского Педагогического Института, Вильнюсского Университета, Ленинградского Государственного Университета, Киевского Государственного Университета, Московского Государственного Университета, Каунасского Политехнического Института, Университета Витаутаса Великого, Московского Государственного Института Международных Отношений

Донецкого Государственного Университета, Московского Химико-Технологического Института, Калининградского Университета, Казанского Университета, Студенческого Союза Народного Фронта Латвии /Латвийского Университета, Латвийской Консерватории, Рижского Медицинского Института/.

г.Вильнюс, 1990.04.05

**ЗАЯВЛЕНИЕ**

Мы, участники форума заявляем, что призыв Литовского Ленинского Коммунистического союза молодежи ввести президентское правление в Литве не имеет никаких оснований. Мы обращаем внимание, что обстановка в Литве спокойна и Литовская Республика не несет угрозы и опасности никому.

Председательствующий
В.Ушацкас

1990.04.06
Вильнюс

# У ВІЛЬНІ 7-ГА КРАСАВІКА

7 красавіка у Вільні у 16 гадзінау у парку Вінгіс на мітынг у падтрымку незалежнасці ЛІТВЫ сабралося звыш 300 тысячау людзей.

Гэта быу адказ літоускага народу на зварот прэзідэнта СССР М.С.Гарбачова. На мітынгу прысутнічалі прадстаунікі Народных франтоу Латвіі Эстоніі, Беларусі, Малдавіі, Грузіі, Расіі, Украінскага "Руху" і некаторых іншых партыяу гэтых рэспублік. Больш за 100 сяброу Беларускага Народнага Фронту пад бел-чырвона-белымі сьцягамі прыехалі у Вільню зь Менску, каб разам зь беларускімі арганізацыямі Літвы падтрымаць літоускі народ. Шквалам апладысмэнтау была адораная прамова Старшыні Сойму БНФ З.Пазьняка. На мітынгу таксама выступілі кіраунікі Літоускае Рэспублікі, шэраг народных дэпутатау СССР, саюзных рэспублік, што прыехалі у Вільню з Масквы ды іншых местау. Ад імя Міжрэгіянальнае групы народных дэпутатау СССР выступіу Юры Афанасьеу. Мітынг прайшоу арганізавана і у адзінадушнае атмасфэры, нягледзячы на тое, што над ім з ровам неаднаразова завісау вайсковы вертолет на небясьпечна нізкае вышыні, раскідаючы на галовы сабраных сотні кіляграмау "интернациональных" улетак "начной партыі".

І.В.

Прапануем Вашае увазе вынятк1 з дэкумэнту , як1 рэглямэнтуе разьмеркаваньне нагрузк1 для выкладчыкаў БДУ. Параўнайце:

Распределение

профессороко-преподавательского состава университета на 1989-1990 учебный год.

| | Наименование кафедр | 1988-1989 ср.уч.нагр. | 1989-1990 ср.уч.нагр. |
|---|---|---|---|
| Общеуниверсит кафедры | История КПСС гуман. факульт | 644 | 591 |
| | История КПСС естеств. фак. | 622 | 523 |
| | М.-л.философия гуман.факульт. | 632 | 597 |
| | М.-л.филосифия естеств.фак. | 634 | 638 |
| Географический факультет | Общего земле-ведения | 987 | 907 |
| | Физ.географии материков и ок | 1112<br>1055 | 941 |
| | материк. и ок. | | |
| | Физ.географии СССР | 1055 | 941 |
| | Почвоведения и геологии | 1065 | 946 |
| | Геодезии и картографии | 1132 | 922 |

Застаецца дадаць, што дадзены дакумэнт падп1саны рэктарам БДУ А.1.К1сялеўск1м 3 жн1ўня 1989г.

ДА СЯБРОЎ КАНФЭДЭРАЦЫ1 БЕЛАРУСК1Х СУПОЛАК.

Панове! Прапануем 29.04 - 2.05 наладз1ць супольную вандроўку на Л1дчыну.

Мэта гэтае вандроўк1 - разам адпачыць, абмеркаваць праблемы маладзёжнага адраджэнцкага руху /Вальны Сойм1к на вольным паветры/, а таксама правесьц1 антым1л1тарысцк1я акцы1 пад лёзунгам "Беларусь - бязьядзерная зона" /адна са шматл1к1х ракетных базаў на Беларус1 знаходз1цца каля Л1ды/.

Зьб1раемся 29.04.1990 да 13 гадз1нау на станцы1 "Нёман", што на чыгунцы пам1ж Баранав1чам1 1 Л1дай. Рухаемся пешшу. Жадаючыя могуць захап1ць ровары. 2.05 у першай палове дня завяршаем вандроўку фэстам каля Л1дзкага замку.

Кал1 ласка, рыхтуйце турыстычны рыштунак, 1нфармацыю для дыскус1яў, мастацк1я выступы. Чакаем вас са сва1м1 харугвам1.

Тэлефоны для сувяз1 - Менск: 776262 - Андрусь Падлеск1 /"Талака"/,
- Л1да: 22967, 21660 - Алесь Судар /"Рунь"/,

тых, хто наважыўся ехаць, прос1м папярэдз1ць.

# РЭКЛЯМА

Набраўшы пасьля 21 гадз1ны вечара тэлефон 618213 1 спытаўшы Андруся Клюк1на, Вы маеце магчымасьць замов1ць яму наступныя музычныя зап1сы

- Данчык /2-ве апошн1я кружэлк1 - па 45 хв1л./
- С. Сокалаў-Воюш /"Кас1нерск1 цыкл" - 45 хв./
- Алесь Камоцк1 - 90 хв1л1наў зап1с
- Вольга Цярэшчанка - 40 хв1л1наў
- рок-гурт "Мроя" /1987, 1988/89 - па 30 хв./
- рок-гурт "Ул1с" /1989/ - 45 хв1л1наў
- рок-гурт "Бонда4
- рок-гурт "Бонда" /1987 - 45 хв1л1наў/
- Андрэй Мельн1каў - 90 хв1л1наў

Перадаючы Андрусю касэту альбо дасылаючы яе яму, пакладз1це ў сярэдз1ну паперку са сва1м прозьв1шчам, адрэсай, тэлефонам 1 замоўленым1 выканаўцам1. Тэрм1н зап1су - 1-10 дзен.

КАЛ1 ЛАСКА!

# У МДМ1

У Менск1 Мэдычны 1нстытут у 1989 годзе паступ1л1 маладыя дзейсныя хлопцы, трох1 абжыл1ся 1 вось у красав1ку нарадз1лася ў 1нстытуце новая ц1кавая гульня. Сэнс яе заключаецца ў наступным - вывешваецца абвестка аб м1тынгу ц1 1нфармацыйны плякат аб надзенных студэнцк1х праблемах ды справах, ц1...ды ц1 мала што, 1 засякаецца:кольк1 1м суджана пра1снаваць. Хачу вас запэўн1ць - доўга чакаць ня прыдзецца. Недасягальны ў бл1жэйшы час рэкорд - 57 хв1л1наў. Рэкорд устаноўлены 6.04.90 - 57 хв1л1наў пратрымалася першае паведамленьне аб байкоце студэнтаў гэафаку БДУ. Зьн1шчыў варожую паперку сумленны, а галоунае , п1льны студэнт Шаўко - старшыня студэнцкае Рады 1нтэрнату стаматаляг1чнага факультэта. Наступныя плякаты пратрымл1вал1ся значна меньш - ад 7 да 10 хв1л1наў - 1 зьн1кал1, не пак1даючы сьлядоў. Мейсца 1хнага знаходжаньня высьветл1лася выпадкова. 9 красав1ка была вывешаная газэта , прысьвечаная гадав1не трагеды1 ў Тб1л1с1. Яна зьн1кла праз 6 хв1л1наў. Ня вытрымал1 хлопцы,бо шкада стала сваей працы - пайшл1 на пошук1. Газэта, як 1 некальк1 папярэдн1х абвестак, знайшл1ся ў парткаме 1нстытуту.

Прадстаўн1чая кам1сыя, прааанал1заваўшы ейны сэнс 1 1дэнтыф1каваўшы тэкст з арыг1налам1, выяв1ла шэраг недахопаў. Напрыклад, замест проста

"Лигачев" хлопцы надрукавал1 "Е.К.Лигачев", на што 1м 1 было указана. Ды адз1н недахоп быў сапраўды - не было подп1су. Але ж на памылках вучацца.

На гэтым пакуль у мэдынстытуцк1х гульнях наступ1ў невял1чк1 перапынак - мы рыхтуем новы наглядны матар'ял.

Зьм1цер Салошк1н.

# БЕЛАРУСЫ Ў ЭСТОНІІ

/Зь л1ста студэнта Тартускага Ўн1вэрсытэту В1таўта Здановiча/.

"...Выйшл1 на Ратушны пляц пад бел-чырвона-белым1 сьцягам1. Был1 1 лёзунг1 на беларускай ды эстонскай мовах. Назьб1ралася нас досыць многа. Па-першае, был1 ўсе нашыя /Аб'яднаньне беларуск1х студэнтау Тартускага Ун1вэрсытэту - заўв. рэд./. Прыйшл1 вайскоўцы-беларусы /дарэчы, яны 1 п1сал1 наш лёзунг/, трап1л1 нават 1 курсанты, таксама хлопцы зь Беларус1. Назьб1ралася чалавек 15-20. Была нядзеля, у месьце народу няшмат, але мы ўсе роўна выкл1кал1 вял1кую зац1каўленасьць. Нас шмат распытвал1 аб станов1шчы на Беларус1, выказвал1 сваю сал1дарнасьць. Было 1 пару яшчэ тых, я б сказаў "родам з 37-га". /.../ На пытаньне аднаго:"Што плянуе раб1ць Беларусь далей, ды 1 мы ў тым л1ку?" хлопец-жаўнер, родам з Гародн1, адказаў так: "Пачынаць сяўбу...".

/.../

Пасьля пайшл1 ў 1нтэрнат. П1л1 трох1 п1ва ды й гаман1л1 аб нашай справе. Хлопцам дал1 л1тара туры ў казарму, бо там у 1х яшчэ шмат беларусаў.

Так1м чынам, мерапрыемства прайшло выдатна".

У канцы сакав1ка на 5 курсе ф1зфаку БДУ был1 сабраныя подп1сы пад л1стом з патрабаваньнем адмены дзяржаўнага 1спыту па ф1лязоф11, замян1ўшага маркс1зм-лен1н1зм. Адказу да гэтае пары студэнты не атрымал1 1 зьб1раюцца байкатаваць дзяржауны 1спыт.

Са словаў А.Сахашчыка,
5 курс ф1зфаку БДУ.

Нумар падрыхтавал1: 1гар М1хно,Зьм1цер Вайцяхов1ч 1 1нш.Кантактны тэл.317370.
Друкавана накладам 5000 экз.
Прос1м прабачэньня за памылк1.